№ 83 Aияdaиг B.

# ГОМАН

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы — 2 м. 70 ф., на 1 мес. — 90 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цана абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі — 25 фэніг.; дробныя абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 83 (279). Год III. Вільня, 22 кастрычніка 1918 г. Цана 10 фэн. (5 кап.)

## Доля нашага краю.

Прэзыдыум Тарыбы прыняты ўчора прад цалуднем рэйхсканцлерам, каторы зрабіў гэткае паведамленьне: „Як павядомлена ў Рэйхстагу, Нямеччына самому літоўскаму народу пакідае арганізаваць сваю канстытуцыю і свае адносіны да суседніх народаў.

Пасьля таго, як Нямеччына прызнала права самаазначэньне народаў, воля самога насяленьня павінна пастанавіць аб яго дзяржаўнай прыналежнасьці. Дык і імперскае ўпраўленьне не маніцца самадзельна ўстанавіць граніцы між Літвой і Польшчай.

Таксама ёсьць намерэньне заканадаўчую ўладу перадаць уласнаму літоўскаму ўраду. Задачай Тарыбы будзе ўтварыць гэты часовы ўрад пры ўчасьці ўсіх слаёў і нацыянальнасьцяй насяленьня.

Мэтай часовага літоўскага ўраду будзе ўтварыць агульнае народнае прадстаўніцтва на шырокай базе. Абяцаная нямецкім урадам ператварэньне ваеннага ўпраўленьня ў цывільнае ўжо пачалося. Гэтае нямецкае цывільнае ўпраўленьне будзе толькі мець спаўняючую ўладу датуль, пакуль літоўскі ўрад не арганізуе асобныя ўстановы і ня будзе магчы сам прыняць на сябе спаўняючую ўладу.

Хоць імперскі ўрад хоча магчыма скора вывесьці ўсе нямецкія войскі з Літвы, ён гатоў, згодна з многаразным, выказаным у краі жаданьнем, часова пакінуць войскі і спосабы перавозу ў краю. Часовому літоўскаму ўраду трэба будзе зарганізаваць ваенную і паліцэйскую сілу.

---

ВАРШАВА. 19.Х. На ўчарашнім засяданьні міжпартыйнага клюба запропанавана Сьвежынскаму ўтварыць міністэрства. Утварэньня габінэту спадзяюцца за 48 гадзін. Аўстрыяцкая ўлада прасіла назначыць цывільнага губэрнатара для аўстрыяцкай окупацыі. Назначаецца граф Торнаскі.

ЛВОУ. 19.Х. На ўчарашнім засяданьні ўвечары украінскага клюба для Галіцыі і Букавіны і членаў украінцаў палаты пазноў адбылося ўтварэньне ўкраінскай нацыянальнай рады.

КІЕУ. (В.Т.Б.) 20.Х. Украінскае міністэрства вышла ў адстаўку. Гэтман даручыў міністру-прэзыдэнту, Лізогубу, скласьці новае міністэрства.

ПРАГА ческая. 19.Х. Намесьнік, гр. Кудэнгоф, выдаў праклямацыю, у каторай, між іншым, кажацца: „новая арганізацыя Аўстрыі пачалася на базе вольных нацыянальнасьцяй. Усякі, хто выклікае цяпер непарадкі перашкаджае гэтай арганізацыі і ёсьць шкоднікам свайго народу.

ВЕНА. (В.Т.Б.) 19.Х. На нарадзе хрысьціянскіх соцыялістаў немцаў усяе Аўстрыі сабраньне аднагалосна выказалася за самаазначаньне нямецкага народу ў Аўстрыі і ўтварэньне нямецкага гасударства з усяго нямецкага народу Аўстрыі.

---

Штатс - сэкрэтар міністэрства імпэрскага скарбу, гр. Роэдэрн аб ваеннай пазыцы:

„Ці вайна ці мір, у кожным здарэньні падпіска на ваенную пазыку астаецца найважнейшай запаведзяй мамэнту.



## Станаўкое упяраджэньне.

(Урадова)

Пры нацыянальным сьвяце, уладжаным 20.Х. часьцю польскага насяленьня Вільні, на пляцы перад катэдрай сталіся, на жаль, стычкі з паліцэйскай вартай, як учасьнікі сьвяткаваньня, ня глядзячы на тое, што былі загадзя упярэджаны ўрадам, прабавалі зрабіць паход па вуліцах места. Учасьнікі паходу ня толькі ня выпаўнілі загадаў начальства, але навет часьцю пачалі гвалты процію органаў паліцыі, каторая пасьля многаразных выстралаў у паветра, была прымушана ўжыць аружжа. Пры гэтым некалькі чалавек было ранена і адзін забіты. Здарэньне само па сабе вельмі смутнае. Адпаведнасьць за яго падае цалком на арганізатараў і ўчасьнікаў паходу, каторыя не клапоцячыся аб існуючых загадах і выданым прыказе, пазволілі сабе грубыя выхадкі проціў паліцэйскіх органаў. Трэба самым рашучым спосабам упяраджаць жыхараў, што гэтак рабіць ня можна.

---

**Асеньняя сэсія Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.**

6 кастрычніка пачалася асеньняя сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. За гэты час Рада, апрача дробных спраў, прыняла протэст проціў дамаганьня польскага ўраду прылучыць часьць Беларусі да Польшчы, і проект закону, прыгатаваны д-рам Трэмповічам аб уваходзе ў Раду прадстаўнікоў провінцыяльных беларускіх рад, земстваў, мест і інш.

**Беларускі консул у Одэсе.**

Беларускі Народны Сэкрэтарыят назначыў за беларускага консула ў Одэсу С. Некрашэвіча.

**Беларускі ўпаўнамочаны на Паўночным Каўказе.**

Беларускі Народны Сэкрэтарыят дзеля перасылкі ў Бацькаўшчыну беларускіх уцекачоў назначыў за свайго ўпаўнамочанага на паўночны Каўказ п. Валковіча. Адрэс упаўнамочанага: Стаўрополь, Мікалаеўская вул. № 54.

**Угодкі Вялікай Беларускай Рады.**

17 кастрычніка прайшоў год з дня ўтварэньня Вялкай Беларускай Рады на зьезьдзе прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый у Менску.

---

## Палонны край.

Сотні гадоў таму назад жменя апалячаных або прыяжджомых з Польшчы паноў захапілі багацьце нашага краю ў свае рукі. Беларускі сялянін мусіў усё сваё жыцьцё гнуць сьпіну на польскага пана, цяжка працуючы на прыгоне. Народ тады быў жывёлай, на каторым рабілі, каторага судзілі і за каторага гаварылі паны (у нас польскія паны). З асвабаджэньнем ад паншчыны (прыгону) народ ня стаў вольным, незалежным ад пана. Яму выразалі горшай зямлі: пясочку, гліны, узгоркаў, а паном асталася лепшая. Апрача гэтага і асвабаджаючы ад паншчыны, жмені паноў было пакінена шмат балей зямлі, чымся надзелена беларускаму народу. І сялянін узноў, каб пражыць, патрабаваў панскай ласкі, мусіў гнуць прад ім сваю шыю. Народ Беларускі і далей ня мог даць свайго голасу. Польскія-ж паны і далей проціў волі нашага народу стараліся гаманіць за яго, быць быццам яго прадстаўнікамі. І цягнулі польскія паны беларускі народ туды, дзе ім самім найляпей быць, цягнулі яго да Польшчы. Мала гэтага, ведаючы, што народ скіне іх ярмо, калі душа яго астанецца вольнай, яны захацелі паняволіць і душу народу. Польская інтэлігэнцыя, польскія паны сталі пераконаваць народ, што быццам іх панскія патрэбы ёсьць разам і патрэбамі беларускага народу. Што быццам лізаць панскую руку, называць польскую мову харошай, блізу што сьвятой і нябеснай, гэта добра і патрэбна. Каб збаламуціць беларускага чалавека, каб ня даць яму пазнаць ніколі сьвету, палякі карыстаючы з свайго багацьця закладаюць у нас прытулкі для беларускіх дзяцей. Гэтак туркі паняволіўшы балканскія народы, адбіралі ў іх малых дзяцей і гадавалі іх у ненавісьці да сваей нацыянальнасьці. Гэткія дзеці, потым вырасшы, называліся янычарамі, яны былі найвялікшымі злосьнікамі сваіх народаў, ведама ня ведаючы, што яны кроў з крыві і косьць з косьці гэных народаў.

